# Прынцып фюрарства

Друкуем ніжэй выказваньне прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага, на кангрэсе ў Менску — 27 чырвеня 1944 г.:

„Тут мушу затрымацца над пытаньнем, які прынцып павінен быць паложаны ў аснову пакліканьня народнага прадстаўніцтва: прынцып правадырства, ці прынцып дэмакратычны.

І той і другі мае свае плюсы і недахопы. Аднак нельга згадзіцца з адным, каб справа кіраваньня лёсам Народу і Дзяржавы была аддадзеная ў рукі безадказнай масы, незалежна ад вартасьці яе складовых частак. Ніхто, напрыклад, з нас ня згодзіцца з тым, каб даручыць свой лёс шалёнаму, крэтыну ці п'яніцы. А між тым запраўдная дэмакратычная сыстэма якраз гэтага абмяжаваньня ня робіць.

Аслаўленая выбарная сыстэма, пабудаваная на агульным, безпасярэдным, тайным і роўным праве ня споўніла пакладаных на яе надзеяў. Вось чаму, пасьля шматлікіх спробаў разьвязкі гэтага пытаньня, паўстала думка палажыць у аснову дзяржаўнага ці народнага прадстаўніцтва іншы дыямэтральна процілежны прынцып — прынцып правадырства".

На эміграцыі большасьць беларускіх арганізацыяў спробуюць практыкаваць прынцып фюрарства у царкоўным, грамадзкім жыцьці. Апраўдаў гэты прынцып сябе? Трэба сказаць, што не. Як бачыце, ніхто нікому не прыпісваіць фашызму, ён ёсьць бачны сам. Калі вы ня ёсьць фашыст, то чаму вы належыце да арганізацыі, дзе прынцып фюрарства ёсьць няпісаны закон.

*Рэдакцыя*

# Беларуская Моладзь

Захаваць нацыю біялягічна, прадоўжыць пэўныя нацыянальныя ідэі ёсьць немагчыма, калі моладзь пакідаіць свой народ, цураецца свае мовы, ня хочыць жыць ідэямі, якімі жывуць іх бацькі. Мусіць быць нейкая прычына, што Беларуская Палітычная Эміграцыя згубіла амаль усю моладзь. Мусіць быць прычына, што гадамі ніхто ў беларускай „дэмакратычнай прэсе“ ня хочыць падняць гэнае пытаньне на ўвесь рост.

Жыдоўская нацыя захавалась стагодзьдзямі сярод іншых народаў. Здарылася гэта таму, што жыдоўская нацыя захавала моладзь. Жыдоўская моладзь пераняла і прадаўжаіць ідэі сваіх продкаў. Пад жыдоўскую моладзь не падцякла вада іншых ідэй, г. зн. іх таты і мамы, іхняе духавенства былі і ёсьць прыкладам для іх. Нятолькі жыды, але нашыя суседзі, як латышы, украінцы, палякі ня маюць такой спусташальнай хваробы, як губляньне свайго насьледства — моладзі.

Чаму-ж Беларуская Моладзь ня хочыць жыць ідэямі сваіх бацькоў? Звычайна, моладзь заўсёды ёсьць ідэйнай. Моладыя мазгі йшчэ ня ёсьць забруджаныя асабістымі сваркамі, груповымі склокамі. Малады мозг ёсьць вельмі адчувальны, што робіцца навакол. Пачынаючы ад 10 год, у асяродку сваей сям'і дый суседзяў юнак ці юначка ўжо разумеюць, што ёсьць добрага альбо злога паміж татам і мамай; многа знаіць пра сям'ю Джані із якім кожны дзень спатыкаюцца дый нават абменьваюцца думкамі пра сваіх татаў і мам.

Моладзь, дасягнуўшы 16-ці гадовага веку пачынаіць думаць самастойна, становіцца часткаю дарослага грамадзтва. У залежнасьці ад прыроджанай інтэлігентнасьці дый абставін залежаць паводзіны маладога пакаленьня, г. зн. ён ці яна становяцца карыснымі грамадзтву альбо паўсталі супроць грамадзтва ці сталі абыякавымі.

У 18 альбо 20 год Беларуская Моладзь на Эміграцыі пачынаіць ісьці ўправа альбо ўлева; на ўсход альбо на захад, толькі чамусьці ня хочыць належыць да Беларускага Грамадзтва; ня хочыць прадаў-

жаць і слухаць пра „слаўны шлях сваіх бацькоў“. Чаму?

*Ад якога гасу мы пагалі губляць Беларускую Моладзь?* Адказ —Адразу пасьле Другой сьветавой вайны. Беларусы паказалі йшчэ раз сваю палітычную пісьменнасьць. Большасьць Беларусаў заселі у чужых асяродках. У польскіх абозах тата ўдаваў паляка, мама памагала тату; найгорш цярпела бабка (калі была), тая гутарыла на мігі хаця-б не паказаць сваю беларускасьць; польскія палітыканы прышчэплівалі палянізм праз польскія школы, гарцэжы і г. д. У расейскіх асяродках беларуса нішчылі духова расейскія палітыканы і царква. Із усей беларускай эміграцыі ў Нямеччыне 10% было сьведамых палітычна, якія ў колькасна некалькіх невялікіх абозах узгадоўвалі дзяцей у нацыянальным таталітарна-партыйным духу. Беларусія лягерныя палітыканы пасеілі ў душах паваеннай Беларускай Моладзі ў Нямеччыне ненавісьць, а не талерантнасьць адной групы да другой.

*1950 год, эміграцыя ДП у заакіянскія дзяржавы*

Беларуская палітычная эміграцыя высадзілася ў новых дзяржавах, як на месяцы; усё, на што мы напаткаліся, для большасьці было неспадзеўкай. Два беларускія ўрады на эміграцыі із міністрамі ня былі здольнымі разумець мясцовую сытуацыю тых краёў, дзе новая эміграцыя пасялілася. Лёс новай беларускай эміграцыі мала чым адлічыўся ад лёсу старой эміграцыі, якая прыехала без міністраў.

Здавалася, што у ЗША і Канадзе мы асвабадзіліся ад чужацкіх лягерных палітыканаў із Нямеччыны, нажаль, Беларуская Моладз стала і тут ахвярай польскіх клюбаў, польскіх палянак, расейскіх фармаў —РОВА, дый іншых арганізацыяў. Чаму так здарылася? Вельмі проста — ня было моцных беларускіх арганізацыяў моладзі, якія змаглі-б прыцягнуць да сябе ўсю Беларускую Моладзь.

*Як Беларуская Моладзь пагынаіць дый праводзіць сваё жыцьцё ў 1970 ў ЗША і Канадзе.*

У большасьці гэта ёсьць дзеці той моладзі, якія больш як 20 год таму назад прыехалі із Нямеччыны. На вялікае дзіва многія таты і мамы дома ўжываюць чужую мову, а не беларускую; многія дрэнна разумеюць чужую мову, аднак удаюць із сябе тым, чым яны ня

ёсьць. Ад трох год тэлэвізар пачынаіць забаўляць дзяцей. Ад пяці год дзіця ідзець да школы, многія бацькі кажуць, што ад гэтага часу дзеці ня ёсьць нашыя; думаю, што ў гэтым яны не памыляюцца. Прыватна дый бачком у беларуксай прэсе мы прыпомнілі, што Беларуская Моладзь ёсьць згубленай; гэта заўважылі не таты і мамы, а бабкі і дзядкі, якія у большасьці ёсьць палітыканамі дый хацелі, каб іх унукі былі такімі беларускімі патрыётамі, як і яны, г. зн. ёсьць „вялікая палітыка“, якая стаіць на трох літарах БЦР і БНР, крывіч мусіць ненавідзіць зарубежніка ці наадварот; большых ворагаў і праблем у беларусаў няма .Беларускае жыцьцё на эміграцыі раўняецца: чатыры-пяць вечарынак на год, адсьвяткаваць 25 Сакавіка дый адразу посьле акадэміі заехаць замачыць бяз моладзі, пару царкоўных пікнікаў на год — амаль поўная адсутнасьць моладзі на пікніку, толькі малыя дзеці ёсьць прысутнымі.

Год маіц 52 тыдні, беларускае жыцьцё раўняецца аднаму тыдню ў год; у другіх мейсцах і гэтага няма. Дзе Беларуская Моладзь праводзіць астатніх 51 тыдзень? Адказ, дзе хочаш, там і назаві. Калі мы не маем жыцьцёвых беларускіх асяродкаў, чаму тады вініць Беларускую Моладзь.

*Неабходныя ўмовы для таго, каб Беларуская Моладзь трымалася Беларускага Грамадзтва*

1. Беларуская Моладзь павінна праводзіць свой вольны час у беларускім асяродку, а не самапасам.

2. Беларускія цэнтры моладзі павінны быць найлепшымі ў тым горадзе, дзе яны існуюць. Беларуская Моладзь, пазнаёміўшыся навакол із іншымі небеларускімі цэнтрамі, знойдзіць вельмі хутка, што лепш за іхнага асяродка няма. Моладзь (дый ня толькі моладзь) заўсёды ёсьць гордай быць сябрамі выдатнай арганізацыі. Моладзь павінна кіраваць сама сабою.

3. Грамадзкасьць, якая апякуецца цэнтрам, павінна быць прыкладам для моладзі. Колькі татаў ёсьць прыкладамі для дзяцей? Вельмі мала. Колькі ёсьць беларускіх арганізацыяў, дзе праца татаў ёсьць сон для сына быць такім, як тата? Хваліцца няма чым. Беларуская інтэлігенцыя паносіць вялікі сорам за недбайнасьць да беларускага насьледства — моладзь.

4. Таму, што мы ня можым мець пачаткавай і сярэдняй школ,

як украінцы дый іншыя нацыянальнасьці, нам патрэбна мець свой амэрыканскі калэдж. У такіх калэджах мы мелі-б магчымасьць бачыць дзяцей ці ўнукаў старай беларускай эміграцыі, беларусаў, якія дыхаюць чужым паветрам.

5. Рабіць беларускія пасёлкі так, як было заплянавана каля рэзорту Менск (ЗША). Самапаства моладзі прывяло да загубы беларускага насьледства на эміграцыі.

Для таго, каб узгадаваць дзяцей, трэба пасьвяціць усё сваё жыцьцё. Сапраўды так ёсьць, многія із нас ужо 20 год ходзяць у царкву ў адным касьцюме, каб выплаціць гняздо для дзяцей, пракарміць іх дый узгадаваць духоўна. Першыя дзьве праблемы ёсьць амаль для ўсіх магчымыя; трэцьцяя праблема — узгадаваць духоўна ёсьць непасільна для большасьці. Шчасьлівы той, каму бацькі далі добрае ўзгадаваньне. Шчасьлівы той, хто належыць да арганізацыі, царквы, якія дапамагаюць тым сем'ям, якія ня могуць духоўна ўзгадааць сваіх дзяцей, а такіх ёсьць большасьць.

*Маем мы Беларусы такую арганізацыю?!*

Калі мы самыя ёсьць грамадзка і палітычна неўзгадаваны народ, як мы, тады, можым узгадоўваць сваіх дзяцей; пагэтаму мы заўсёды былі і ёсьць ахвяра, гной для іншых. Толькі жывое можыць плыць супроць вады (Багдановіч). У сяньняшняй сытуацыі трэба быць ня толькі жывым, але трэба быць моцным.

*Дайце прыгледзімся да некалькіх беларускіх арганізацыяў, якія думаюць, што яны ўзгадоўваюць моладзь.*

1) Тры беларускія партыйныя цэрквы: БАПЦ, пад Грэцкай юрысдыкцыяй дый пад юрысдыкцыяй Югаслаўскай праваслаўнай Царквы (Англія). Першыя дзьве духоўна раз'ядноўваюць ня толькі моладзь, але ўсякага беларуса. Чаму? Таму, што духавенства гэтых цэркваў замест таго, каб служыць Богу і Беларускаму Народу рашылі служыць таталітарна-папяровым партыям. 90% Беларускай Моладзі на эміграцыі ўзгадоўваюць чужыя цэрквы. Вось тут номер адзін праблема, мае дарагія айцы!

2) Згуртаваньне Беларускай Моладзі ў Амэрыцы налічваіць некалькі дзесяткаў сяброў. Найлепшая арганізацыя ёсьць у Клевеляндзе. Зьвярніце ўвагу на недаўна выдадзены альбом да 20-ці

годзьдзя ЗБМА, можна сказаць хоць нешта, але робяць. Ведаючы ўсю праблему Беларускай Нацыі дый моладзі на эміграцыі, цешыцца няма чым.

Прыстанкам для арганізацыі ёсьць БАПЦ із яе будынкамі. Старыя царкоўныя будынкі із клюбікамі ў склепе выглядаюць вельмі мізэрна. Палітычная арыентацыя: эміґранцкая Рада БНР (не мяшайце із Радай БНР Беларускіх Сацыялістаў, 1918 г.). Арганізацыя выдавала часапіс „Беларуская Моладзь". Посьле часапіс выдаваўся супольна із Саюзам Беларускае Моладзі. На выданьне часапісу былі грошы, матар'ял да друку. Часапіс перастаў выходзіць без усякага тлумачэньня перад грамадзтвам. У беларусаў гэта нармальная зьява.

3) Саюз Беларускай Моладзі ў Амэрыцы (імітацыя Саюзу Моладзі падчас нямецкай акупацыі, 1943 год). Замёршая арганізацыя ў Саўт Рывэры, ЗША).

Галоўная кватэра: Бярлога пры Саўтрывэрскім балоце, гаспадар мішка трымаіць усе сакрэты гэтай арганізацыі.

Саўт Рывэр адно із мейсц, дзе былі ўсе магчымасьці мець цэнтар і моладзь. Тэорыя фюрэрства не дазволіла гэтай арганізацыі падняцца ўверх.

Апякун: Беларуская Царква Грэцкай юрысдыкцыі.

Палітычная арыентацыя: БЦР — беларуская фашыская арганізацыя.

4) Згуртаваньне Беларускай Моладзі Ільыноя. Беларуская вуніяцкая арганізацыя, заснаваная посьле таго, як БНРавец Пануцэвіч быў выкінуты із Беларускай Рады Чыкага. Маіць добры цэнтар.

Палітычная арыентацыя: эміґранцкая Рада БНР. Арганізацыя не маіць посьпеху.

5) Беларуска-каталіцкая місія ў Лёндане (вуніяты) маіць пачатковую школу, гэтым самым маіць уплыў на частку Беларускае Моладзі.

Палітычная арыентацыя: Эміґранцкая Рада БНР.

6) Беларускаму Цэнтру Менск, Глен Спэй, Н'ю-Йоркскі штат нанесены цяжкія раны.

Лятуценьні Беларускіх Патрыётаў, 10 год таму назад, стварыць маральную і матар'яльную базу, стварыць дэмакратычны парадак у гэтым цэнтры для моладзі і старшых ёсьць патаптаны рыцарамі свастыкі (кангрэсовы камітэт) дый праватыканскай БАЗА. Праблема моладзі застаецца далей. Чаму? Таму, што мы хочам, каб тыя, што разагналі Беларускую Моладзь нам яе арганізавалі.

Паважаныя бацькі, за нашых дзяцей адказнымі ёсьць мы, не чакайце на фюрараў. Паглядзіце і падумайце пра дзяцей беларускіх фюрараў! Хіба сьляпы сьляпому можыць быць правадыр.

*Др. П. Маркоўскі*

⁂

ЗЬ ЛІСТОЎ У РЭДАКЦЫЮ

Ноттінгам, 25. 6 1970 г.

Паважаны др. Маркоўскі!

Шчыра дзякую за дасланы Вамі крытычна-спорны часапіс, які хоць мясьцінамі імпануе, дык у бальшыні безнадзейна-сумны, а гэта таму што агульны зьмест, як бачна, вядзе да нейкага выводу нацыянальнай справы, як-бы даючы нейкую надзею новага ходу, каторы вылячыць усё балючае у нашай патрэбе, але адначасна губіць сваю вартасьць западаючы у плынь крытычнай палемікі і спораў якія ужо гадамі былі амытыя шмат-калеровым балотам, а таму стаюцца нікчэмнымі і безвартаснымі усякай патрэбе.

Вы як акадэмік з дактаратам мусіце ведаць што паўтарэне закідаў ці прыпіска віны некаму, не палепшыць нічога, так як і немагчыма вылячыць хворага другою хваробай, а на гэта патрэбныя нейкія лекі, ці інакш нейкі ход які дасьць рэальны напрамак прац у карысьць народу і краю.

Каб нешта асягнуць належыць прыняць грунтовыя прынцыпы за падставу, якія будуць цесна вязацца з падставай нашай дзяржаўнай неабходнасьці. Гэтыя прынцыпы мусяць мець патрыятычнасьць понад усё іншае, так як напрыклад БВФ мае кліч „Беларусь Перадусім", дый у факце трымаць нацыянальную справу пры абсалют-

най чысьціні, так каб людзі ёю ганарыліся і цешыліся мець нешта супольнае у ёй.

Людзі каторыя ужо упляліся у чужыя пляцоўкі за грошы ці за нешта іншае; незалежна у палітыцы ці рэлігіі, немусяць быць талераваны як працаўнікі нацыянальнага характару ці патрэбы, а толькі як прыватныя асобы, якія могуць успамагаць але ніколі не кіраваць нацыянальнымі патрэбамі ці арганізацыямі. Такі спосаб аўтаматычна адізалюе усіх нячэсных „дзеячоў". Таму німа патрэбы некага вызываць ці абкідаць балотам дый брудзіць свае рукі пры гэтым чыне.

Сьвятых на грэшнай зямлі шукаць цяжка але апраўдаць свае нацыянальныя патрэбы ёсьць неабходным, а таму трэба меркаваць ці гэты грэх ёсьць нацыянальна варожы ці прыватнай няўдачы, што дасьць плятформу для ацэны чэснасьці і наадварот.

Вашае выражэне што немцы склікалі 2-гі Кангрэс не дае гонару Вашай акадэмічнай асьвеце, бо-ж думаць што немцам быў патрэбны кангрэс ёсьць наіўным абсурдам і зусім не пасуе на Ваш стаж. Што немцы далі дазвол яго склікаць гэта іншая рэч, бо яны бачылі што каленія на якую яны меркавалі, ужо выпадае ім з рук безнадзейна, таму іх мала цікавіла што робіцца абы іх самых не чапалі. Пры падобных-жа абставінах тварыўся-ж і І-шы Кангрэс.

Вы як і усе нашы суродзічы павінны быць удзячны што нехта пастараўся склікаць гэты кангрэс, каб гэтым завяршыць найбольшы нацыянальны уздым Беларускага Народу ад сотні гадоў і даў яму усе падзеі, уся праца у часе вайны, узгадаваньне моладзі, нац. усьведамленьне, дый усе паўшыя ахвярамі, нацыянальна нямелі-б свайго значэньня, а толькі маглі-б лічыцца як твор немцаў ці іх беспасрэдніх служакоў, а ці-ж гэта была-б праўда? Ці-ж немцам была патрэба усьведамляць нашу моладз аб Беларусі? Ці-ж немцам было патрэбнае нашае школьніцтва ці СБМ і іншыя? Калі былі выраджі што былі служакамі для немцаў, дык былі адзінкі, так як такія вырадкі ёсьць і тут на чужыне, што за асабістую нажыву аддалі-б у палон усю нацыю — палітычна ці рэлігійна. За гэтыя адзінкі нябальшыня народу даражыць і гардзіцца імі, бо гістарычныя падзеі можна-ж зневажаць ці крыўдзіць творы нац. падзеяў, каторымі у каждым народзе служаць падставай і крыніцай нацыянальнага жыцця, неабходна гэта і для нас..

Вашае жадане каб два пакаленя вымерло, такжа не пасуе цьвя-

розаму разсудку, ані сьведчыць аб нечым карысным. Глянуўшы у нашу прошласьць, калі наш народ быў сотні гадоў акупаваны, дык Вы можаце мець тую-ж карціну двух пакаленьняў, а што гэта дало, калі не большы занепад нацыянальнай сьведамасьці?

Калі Вы сапраўды шукаеце выхаду з тупіка і жадаеце дабра сваёй нацыі, дый жадаеце дапамагчы асабіста у гэтым, то трэба шукаць праўды і справядлівых людзей, якіх яшчэ дзякуй Богу крыху захавалася і прылучайцеся да іх каб тварыць большы уплыў на маласьведамыя масы і на тых шантажнікаў каторыя думаюць што здабудуць асабістыя нажывы за цану нацыі. Хоць некаторыя ужо нажыліся і да працы не ходзяць, а яе раз трэба дагледзець каб за іх выгады наш народ не плаціў у будучыні.

Магчыма Вам ведама што проф. Астроўскі зрэзыгнаваў са свайго становішча ужо гадоў сем таму і уся БЦР амаль што нежыве, дык няма патрэбы калаціць тых што усоўваюцца на бок, аднак другую групу „непрэдрашэнцаў" грамада не пазбудзецца так лёгка бо яны выконваюць чужыя кантракты. Цьвярозая грамада можа іх толькі асіраціць і пакінуць самых, а трэба групавацца у арганізацыях як БВФ, каторы стаіць на грунце поўнай незалежнасьці ад нікога і здабывае што-раз новы плятформы на міжнародных форумах. Тут няма палітыкі а простая рэч нацыянальнай патрэбы, каб здабыць і даць нагоду нашаму народу склікаць 3-ці Кангрэс які задэцыдуе што народ жадае. Таму БВФ мае кліч „Беларусь Перадусім", так толькі можна узьвясьці сваю мэту да пераможнага канца.

На заканчэне жадаю Вам шмат асягненяў і цьвярозага думаньня веручы што знойдзеце належны шлях калі Вы яго шукаеце.

З пашанай,

*Я. Бунгук-Будзіг*

⁂

АДКАЗ НА ЛІСТ СП. Я. БУНЧУК-БУДЗІЧ

Ёсьць вельмі дрэнна, што вы няхочыце быць спэцыфічным дый напісаць:

1. Што Вы бачыце крытычна-спорнае;

2. Некалькі прыкладаў палемікі ці спора;

3. Факты, якія раўняюцца шматкаляроваму балоту;

4. Колькі паўторана закідаў, каму неправільна прыпісана віна...

Спосаб, у які Вы напісалі ліст, вядзець да палемікі, спору, а не цьвярозага разважаньня над фактамі. Паспробую Вам даць адказ.

Вы пішыце: „Каб нешта асягнуць, належыць прыняць грунтовыя прынцыпы за падставу“. Думаю, што Вы прапусьцілі вельмі важнае, гэта знаньне праблемы. Без знаньня праблемы — не магчыма прынімаць грунтовыя прынцыпы. Лекар без дыягноза ня робіць лекі. Сьляпы патрыятызм ёсьць нічога няварты, асабліва такі, як, „Беларусь перадусім“. Расейцы праз свой сьляпы патрыятызм маюць ня толькі Расею, але імпэрыю. Якое жыцьцё маіць дый меў расейскі народ у сваей імпэрыі? Тут, у Амэрыцы, жыцьцё сабакі ёсьць лепшае, чымся жыцьцё расейца ў СССР.

Для патрыятызма дый, каб трымаць нацыянальную справу пры чысьціні, як Вы пішыце, я выбраў-бы кліч „Беларусь незалежна-дэмакратычная“. Сказаць дэмакратычная ёсьць вельмі проста — трэба паказаць. Паказалі мы на эміграцыі, што мы ёсьць дэмакраты? Не. Далей Вы супярэчыце сабе, радзячы ня брудзіць свае рукі із людзьмі, якія „упляліся ў чужыя пляцоўкі за грошы ці за нешта іншае“. Трымаць хату чыстай трэба бруд выметаць дый своечасова. Беларуская хата зарасла брудам, беларускі бруд зрабіўся цьвёрдым; беларускі бруд ня вымеціш, пад яго трэба ўжываць іншыя сродкі. Калі мы хочым жыць у Беларускай Хаце, яе трэба вымесьці альбо пасяліцца ў іншую, г. зн. астацца назаўсёды на эміграцыі.

Ня буду із Вамі спрачацца, што сьвятых на грэшнай зямлі шукаць — цяжка, аднак хачу застанавіцца над такім выражэньнем: „апраўдаць свае нацыянальныя патрэбы ёсьць неабходным“ і г. д. (глядзі ліст). Адразу у наступным параграфе Вы пачынаіце апраўдваць „2-гі Кангрэс“ дый безадказна параўноўваіце да Першага Ўсебеларускага Кангрэса. Як Вы можыце параўноўваць мыш да слана? Калі я Вам адкажу ў такі спосаб, як Вы мне напісалі свой ліст, у нас завяжыцца палеміка, спор і г.д. Каб пазьбегнуць гэтага, я буду больш спэцыфічным, дый дайце параўнаем:

| Першы Ўсебеларускі Кангрэс | „Другі Кангрэс“ |
| --- | --- |
| 1. Абставіны: Бальшавіцкая Акупацыя. | 1. Абставіны: Нямецкая акупацыя. Немцы стварылі Раду БЦР пры нямецкім камісар'яце. |
| 2. Бальшавікі дазволілі Беларускім Сацыялістам склікаць гэты кангрэс. | 2. Нямецкія камендантуры падабралі дэлегатаў дый паслалі на гэты кангрэс. |
| 3. Бальшавікі ня былі гаспадарамі кангрэса. | 3. Немцы гаспадарылі на кангрэсе, як: ахова, знамяніты статут, нават растаран быў нямецкі. |
| 4. Першы Беларускі Кангрэс абвесьціў Беларускую Народную Рэспубліку — БНР, г.зн. форму дзяржавы. | 4. Другі Кангрэс падцьвердзіў раду БЦР падабраную немцамі. БЦР — значыць урад, але не паказваіць якая форма дзяржавы. |
| 5. Бальшавіком не падабаўся Першы Ўсебеларускі Кангрэс, пагэтаму яны яго разагналі. Беларускія Сацыялісты былі незалежнымі. | 5. Створаная немцамі БЦР супрацоўнічала із немцамі, як БССР із расейцамі. Чытайце прамовы дэлегатаў на гэтым кангрэсе тады Вы зразумеіце, калі хочыце разумець. |
| 6. Рабочыя чыгуначнай станцыі Менск дый салдаты менскага гарнізону дапамаглі закончыць працу Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, пагэтаму БНР ёсьць твор Беларускай Нацыі. | 6. Ніхто із дэлегатаў другога кангрэса ці беларускай паліцыі ня выступілі супроць нямецкае зьнявагі нашаму народу, які быў запісаны ў статуце для рады БЦР. |

Хачу Вам прыпомніць, што склікаць Другі Ўсебеларускі Кангрэс маглі і могуць толькі Беларускія Сацыялістыя, якія абвесьцілі БНР Незалежнай дзяржаай. Усякі той, хто ня ёсьць Беларускі Сацыяліст, ня ёсьць БНРавец. Дэлегаты „другога кангрэса“ ня былі БНРаўцамі, якое яны тады мелі права называць свой кангрэс другім? Заходзіць у чужы дом ад імя гаспадара ёсьць крымінальнае злачынства. Няўжо за 25 год на эміграцыі Вы не зразумелі элементарныя прынцыпы права. Так як антысацыялістыя дый рэлігійныя фанатыкі эміграцкай рады БНР так і Вы не маіце права склікаць аніякіх другіх кангрэсаў, тым больш трэцьці кангрэс. Хіба толькі

аджывуць Беларускія Сацыялістыя дый прадоўжаць ідэі сваіх папярэднікаў БНРаўцаў дый прымуць Вашую партыю да свайго ўраду, толькі тады Вы можыце склікаць Другі Ўсебеларускі Кангрэс, але аніяк Трэцьці Кангрэс.

Для таго, што немцы зрабілі нейкія ўступкі у апошнюю мінуту іхнай акупацыі, Вы цэніце так высока, што зусім забыліся пра ўсе ахвяры на Бацькаўшчыне. „Калі былі вырадкі, што былі служакамі для немцаў, дык былі адзінкі". Дайце паглядзім вось на такую статыстыку. Падчас Другой Сьветавой Вайны ў БССР было зьнішчана 100 вёсак із людзьмі дый праўдападобна столькі на Беларусі паза межамі БССР.

Для таго, каб расстраляць частку насельніцтва, трэба было падрыхтаваць сьпіскі праз валасных старшын, праз раённыя ўправы. Стараста вёскі мусіў ехаць із немцамі дый паказаць гэтых людзей таму, што немцы іх ня зналі. Паліцаі разам із немцамі гналі гэтых людзей да ямы. Такую самую роль выконвалі савецкія партызаны, калі вярнулась на Беларусь Масква із НКВД. Іншая справа, што чорныя і чырвоныя акупанты заплуталі частку нашага насельніцтва ў сваю сатанінскую машыну, людзі якой ня мелі іншага выбара, як выконваць іхныя загады.

Ня ўсімі нацыянальнымі падзеямі трэба гардзіцца і даражыць. Такая падзея, як неразумны раскол Беларускай Палітычнай Эміграцыі, за чужыя інтэрэсы ёсьць дый будзіць гордасьць для Беларусаў? Такія машынкі акупантаў, як БЦР із паліцыяй дый БССР із НКВД ёсьць гордасьць ці сорам нашай слабасьці.

Раджу калі, што чытаіце, то старайцесь зразумець, а калі не разумеіце — запытайце кагось іншага. Я асабіста ніколі не жадаў, каб два пакаленьні Беларусаў вымерлі.

Што значыць БЦР амаль ня жыве? Няма нямецкай акупацыі няма і БЦР, прачытайце статут акупантаў. Выглядаіць, што БВФ сіліцца выканаць ролю БЦР, думаю, што Вы памыляіцеся,, Касяк і Лапіцкі так далёка Вас не дапусьцяць. Чаму амаль усе БЦРаўцы пакінулі БЦР створаную „народам", а не акупантам. Палітыкі, якія былі прызваныя народам, а потым пакідаюць народныя творы, ёсьць злачынцамі перад народам. Як бачыце, Спадар, вельмі няпрыемна спрачацца із фактамі. Калі мы ня зробім правільны дыягноз хваробы Беларускай Палітычнай Эміграцыі, ды не пастараімся вылечыць гэтую хварову, тады мы загінем, як усякі цяжка хворы.

# А гэта, што за рэалізмы?

Мы маем дзяржавы, партыі, групкі людзей, якія ставяць свой інтэрас вышэй агульнага інтэрэса, між іншым, яны ёсьць найбольшымі ,,абаронцамі" агульначалавечых, нацыянальных інтэрэсаў.

Расейскія бальшавікі рашылі бачыць Расею вялікай ад Балтыцкага Мора да Ціхага Акіяна. Гэтая страшная, антычалавечая, амаральная, неэтычная ідэя ў адносінах да нерасейскіх народаў імпэрыі хаваецца пад ідэяй камунізму.

Зьнішчыць нацыяналную культуру народаў расейскай імпэрыі, трымаць экономіку народаў СССР у руках крамлёўскіх манапалістаў толькі мэта, а сродкі для асягненьня такой мэты называюцца сацыялістычны рэалізм. На службу такой бруднай мэты прымушана пісаць прэса, радыё, тэлебачаньне г. д.; той, хто асьмеліцца пратэставаць МВД маіць свае сродкі для лекаў.

Чэцьверць стагодзьдзя на эміграцыі мы чытаем беларускую прэсу ,,будучых гаспадароў" незалежнай Беларусі. Возьмем, напрыклад, газэту ,,Беларус" ды паставім некалькі пытаньняў для яе гаспадароў і апякуноў:

1. Як ворган эміграцкай Рады БНР, чаму вы ня хочыце высказацца на тэму экономікі, права будучай Незалежнай Беларусі.

2. Ёсьць у вашай арганізацыі партыі ці не, калі ёсьць, то якія дый чаму вы іх скрываіце?

3. Чаму вы ня хочыце друкаваць негатыўны бок беларускіх эміграцкіх арганізацыяў; мы, Беларусы маем больш негатыўнага, чым пазытыўнага. Напрыклад: Калі наш Бэлэр-Менск пачаў тапіцца, да газэты ,,Беларус" напісала некалькі асобаў (я знаю чатыры), вы чамусьці рашылі маўчаць. У той час у некалькіх намярох газэты вы апі-

салі паездку каталіка да Ватыкана, як бачна гэта было вельмі важна.

4. Прыблізна 15 год таму назад, посьле ад'езда Абрамчыка із Чыкага, Вацлаў Пануцэвіч быў пазбаўлены сяброўства Беларускай Рады ў Чыкага. Вы напісалі ў „Бацькаўшчыне“, а потым паўтарылі ў „Беларусе“, што Пануцэвіч разьвязаў Беларускую Раду ў Чыкага, што было няпраўда. Для чаго вы заводзіце сваіх чытачоў у блуд?

5. Чаму вы адводзіце многа мейсца ў газэце „Беларус“ для вуніяцкай арганізацыі ў Чыкага, якая ёсьць вельмі маленькая ў параўнаньні да Беларускай Рады ў Чыкага?

6. Чаму вы расьпісваіце паездкі беларускіх вуніяцкіх япіскапаў дый місыянэраў па ЗША, Канадзе; размазваіце калярова іх сустрэчы із сьвятарамі БАПЦ. вы із Пануцэвічам рашылі рабіць гісторыю, каб паказаць, што „сапраўды незалежныя сьвятары“ ніколі ня былі супроць вуніі. У той час, як у аўстраліі беларускае грамадзкае і царкоўнае жыцьцё перастала быць — вы рашылі лепш маўчаць пра такі „посьпех“.

7. Вы можыце адказаць, што вы друкуіце паездкі беларускіх вуніяцкіх місыянэраў, як навіны. Тады я хачу запытаць, калі некалькі год таму назад Беларускага Япіскапа Ўладзімера дэхарытанізавалі ў Чыкага: Зарвалі зь яго аблачэньне, надзелі яму вядро на галаву, а ў Саўт Рывэры „адукаванья“ сыны сьвятароў дый „грамадзка выробленыя“ беларусы пачалі называць гэтага манаха Валодзька, у той час, калі на баку гэтага япіскапа было 80% прыхажан. Нават амэрыканскія газэты апісалі гэнае злачынства. Вы добра пра гэта ведалі, аднак не паінфармавалі сваіх чытачоў.

8. Вы добра ведаіце чаму дапамагаіце католіку Др. Я. Малецкаму прадаўжаць зялезны ланцуг.

9. Больш, як 10 год таму назад вы падсоўвалі Беларусам езуіта із Лёвэна, як найбольшага прыяцеля Беларусаў.

10. Калі ў Чыкага высьвечалі беларускі вуніяцкі цэнтар, вы апісалі гэта, як вялікую падзею. Чаму вы не далі нагоды выказацца іншым Беларусам на балонках вашай „дэмакратычнай“ газэты пра гэтую „славутую“ падзею?

Такіх фактаў можна было-б насабіраць на цэлую кніжку. Тыя Беларусы, каму дарага Незалежнасьць і Воля для Бацькаўшчыны, калі ласка, падумайце сур'ёзна над формай рэалізма фюрараў эміграцкай Рады БНР.

Некалькі год таму назад выплыла „Беларуская Думка“, выдаваная беларускімі фашыстамі; вельмі-ж хутка пачала тапіцца. Тыя, што ёсьць блізка каля гэтага часапіса кажуць, што посьле чатырохгадовага нырка ўзноў выплываіць наверх. Ня было матар'ялу да друку, вось якая асноўная была прычына нявыхада часапіса, хоць адказныя за гэты часапіс кажуць, што ня было грошы.

Хочыцца запытаць рэдакцыю гэтай думкі, чаму вы не напішыце пра рэалізм фюрэрства дый, як гэты рэалізм разьвяжыць праблему эканомікі, права на Беларусі. Рэалізм маўчаньня не падыміць Беларусаў да незалежнасьці, сацыяльнага парадку, права.

*П. Цэдрык*

* * * *

Радактар: Dr. P. Markouski Editor
Адрыс: 204 S. Highway, 18
East Brunswick, N.J. 08816
USA

**Printed by The Whiteruthenian Press * 452 South Avenue, Syracuse, N.Y., 13204**